


№ 32 (60) 6—12 кастрычніка 1993 г. Кошт 5 рублёў

# ЗАЯВА
## Сойму БНФ «Адраджэньне»
## Аб палітычных пераменах у Расеі і становішчы ў Беларусі

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» неаднаразова паведамляў аб існаваньні змовы пракамуністычных праімперскіх колаў Беларусі і Расеі, накіраванай на рэанімацыю СССР і ліквідацыю незалежнасьці Рэспублікі Беларусь. 21 верасьня гэтага году змова была прыпыненая ў выніку роспуску Вярхоўнага Савета і зьезду народных дэпутатаў Расеі прэзідэнтам Б. Ельцыным. Б. Ельцын зрабіў самастойны энергічны крок на выхад з палітычнага тупіка, у якім апынулася ўлада ў Расеі. Дзеяньні расейскага прэзідэнта фармальна не адпавядаюць старой савецкай канстытуцыі РСФСР, але цалкам легітымныя, улічваючы двойчы атрыманую Б. Ельцыным падтрымку народа пад час прэзідэнцкіх выбараў і рэфэрэндуму, апраўданыя і правамоцныя з гледзішча інтарэсаў Расейскай Федэрацыі. Вярхоўны Савет Расеі гэтак жа як і Вярхоўны Савет Беларусі, які незаконна забараніў рэфэрэндум аб новых выбарах, ужо не ёсьць легітымны орган і зьяўляецца фактычна ўзурпатарам заканадаўчай улады. У такой сітуацыі народ і яго правамоцныя прадстаўнічыя інстытуты ўлады маюць права на роспуск нелегітымных уладных структураў. Тупіковую калізію, вузел супярэчнасьцяў паміж правам, законам і нацыянальнай мэтазгоднасьцю ў Расеі нарэшце расьсеклі. Усё астатняе будзе залежаць ад самога расейскага грамадзтва, тым больш, што тэрміны новых выбараў пастаянна дзеючага парламента і прэзідэнта там ужо аб'явілі. Беларускі Народны Фронт ухваляе рашучасьць расейскага прэзідэнта.

Аналагічная сітуацыя зь Вярхоўным Саветам склалася і на Беларусі. Але тут няма двоеўладзьдзя, няма дэмакратычных структураў кіраўніцтва. Уся ўлада цалкам зьверху да нізу складаецца са старых, выбраных за часы БССР, органаў і належыць былой камуністычнай наменклатуры. Тут няма каму расьсекчы абсурдны вузел акрамя народа, які пакуль пазбаўлены ўласнасьці, магчымасьці праявіць ініцыятыву і знаходзіцца ў палоне мэтанакіраванай дэзінфармацыі. Аднак разарваць вузел неабходна. Пра гэта Народны Фронт гаворыць пастаянна.

Вярхоўны Савет, які страціў права на законнае прадстаўніцтва, павінен быць распушчаны. Усе яго заканадаўчыя рашэньні, прынятыя пасьля незаконнай забароны рэфэрэндуму 29 кастрычніка 1992 году, неправамоцныя. Ніякія акты здрады, праведзеныя праз гэты Вярхоўны Савет, не будуць прызнаныя. Тэрмінова павінна быць склікана сесія Вярхоўнага Савета, адной з асноўных задач якой стане прызначэньне даты новых выбараў у вышэйшы заканадаўчы орган краіны.

Мы адзначаем асобую рэакцыйную ролю Савета Міністраў у дзейнасьці Вярхоўнага Савета, дзе ён трымае практычна «кантрольны пакет» дэпутацкіх галасоў і кіруе намэнклатурнай большасьцю. Менавіта Савет Міністраў на чале зь В. Кебічам, як кіруючая выканаўчая структура прывёў беларускую эканоміку да стану банкруцтва, менавіта Савет Міністраў праз паслухмяны яму Вярхоўны Савет зьяўляецца ініцыятарам тармажэньня рынкавых рэформаў. Менавіта Савет Міністраў не пасаромеўся гандляваць суверэнітэтам Беларусі, стаў выканаўцам плана маскоўскай пракамуністычнай рэакцыі аб ліквідацыі незалежнасьці нашай дзяржавы. Урад, які выбраў шлях здрады нацыянальным інтарэсам і нацыянальнаму існаваньню, не павінен кіраваць краінай.

Мы асабліва падкрэсьліваем тэрміновую неабходнасьць адстаўкі некампетэнтнага Савета Міністраў і стварэньня часовага кааліцыйнага ўрада на перыяд да парламенцкіх выбараў. Мы лічым, што дзеля ажыцьцяўленьня гэтай неадкладнай задачы павінны злучыцца ўсе некамуністычныя антыімперскія сілы краіны.

Для ажыцьцяўленьня палітычных і эканамічных пераменаў дэмакратычнымі апазіцыйнымі сіламі створана дастаткова напрацовак і, у тым ліку, праект закона аб датэрміновых выбарах, падтрыманы 442 тыс. грамадзянаў Беларусі для вынясеньня на ўсенародны рэфэрэндум, што дазваляе распачаць вывад Беларусі з палітычнай безвыходнасьці і эканамічнай стагнацыі. Гісторыя ізноў дае Беларусі чарговы кароткі шанц выхаду з тупіка, шанц пабудовы вольнага грамадзтва і нацыянальнай дзяржавы. Недаравальна будзе яго змарнаваць.

## У ГАЗЕЦЕ:



*У мясцовых філіях*

## З новымі сіламі

Адбылося першае пасля летняга адпачынку паседжанне Віцебскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. На ім акрэслены агульныя кірункі працы ТБМ. Сярод іх—аднаўленне калісьці папулярнага сярод віцяблян цыкла лекцый па нацыянальнай гісторыі, выступы на абласным тэлебачанні.

**Н. ПРЫСУТНЫ.**

*Рэзананс*

## Вывады былі абгрунтаваныя

Мінула крыху больш чатырох месяцаў пасля з'яўлення ў «Выбары» матэрыяла «Інвестыцыя ці продаж?» У ім (між іншым не ўпершыню) мы расказвалі аб перадачы Віцебскім гарвыканкамам у асабістую маёмасць 23-х кватэраў у адным з новых дамоў па вуліцы Чкалава грамадзянам, якія праінвесціравалі будаўніцтва.

У інфармацыі, дасланай у парламент, рэспубліканская Пракуратура пацвердзіла высновы нашых журналістаў. Паводле слоў намесніка Генеральнага пракурора І. Сашчэкі, камісіяй, якая правярала матэрыялы ўпраўлення капітальнага будаўніцтва выканкама, устаноўлена, што апошняе набірала інвестараў з ліку асобаў, якія не былі забяспечаны нормай жылой плошчы на аднаго чалавека. Пры гэтым яно не зважала на тое, знаходзяцца яны на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых варункаў ці не. Да таго ж, прыцягненне грашовых сродкаў грамадзянаў у парадку інвесціравання для будаўніцтва праводзілася без шырокага апавяшчэння насельніцтва. Інвестарам выканкам гарсавета нават не выдаваў ліцэнзіі, прадугледжаныя ўрадавай пастановай.

**Наш кар.**

## Зварот да Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусі спадара С.Шушкевіча

Паважаны Старшыня.

Дзеяньні праімперскіх і камуністычных сілаў на Беларусі ставяць пад пагрозу існаваньне нашай незалежнасьці і дзяржавы. У органах улады адкрыта гаворыцца аб рэанімацыі СССР і імперскай адміністрацыйнай сістэмы. Адкрыта зьневажаецца наша дзяржава, наша гісторыя і мова, нашы нацыянальныя дзяржаўныя сімвалы. І ўсё гэта адбываецца на тэрыторыі Беларусі, на нашай зямлі ў сьферы дзейнасьці нашых законаў. Вядзецца дэзінфармацыя з мэтай прынізіць сапраўдныя эканамічныя магчымасьці беларускай дзяржавы, затаптаць свабодныя перспектывы яе народа. Антынацыянальныя, антыдэмакратычныя колы выступаюць з ініцыятывамі канфедэрацыі Беларусі з Расеяй, злучэньня зь ёй у адну дзяржаву шляхам аб'яднаньня фінансава-крэдытных сістэмаў, шляхам стварэньня так званага «эканамічнага саюза» і г. д.

Сілы рэакцыі на Беларусі дзейнічаюць заадно з камуністычнымі структурамі Расеі і такімі адыёзнымі фігурамі, як Хасбулатаў, Руцкі, Сцерлігаў, Зюганаў, крымінальны дзеяч Буракявічус, генерал Макашоў, што сьведчыць аб змове гэтых камуністычных сілаў супраць нашай дзяржавы і свабоды.

Усе антыбеларускія ініцыятывы падтрымліваюцца і ініцыюруюцца Саветам Міністраў Беларусі. Тым самым груба, бессаромна парушаюцца абавязкі перад народам і законы дзяржавы. Змоўніцкая антыбеларуская пазіцыя Саўміна выкліканая, перш за ўсё, поўным правалам палітыкі ўраду ў эканоміцы, што паставіла ў вельмі цяжкае становішча нашае грамадзтва. Каб пазьбегнуць адказнасьці, людзі, надзеленыя ўладай, што паграэьлі ў мафіёзных дачыненьнях, гатовыя чарговым ашуканскім чынам здаць абрабаваную імі дзяржаву і прадаць беларускую незалежнасьць расейскай дзяржаве і расейскай мафіі.

У сувязі з вышэйсказаным прапануем тэрмінова склікаць нечарговую Сесію Вярхоўнага Савета па пытаньні аб адстаўцы няздольнага да дзяржаўнага кіраваньня Савета Міністраў і аб фармаваньні кааліцыйнага ўраду Беларусі.

Народныя дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце:

**З. Пазьняк, С. Антончык, У. Заблоцкі, С. Навумчык, В. Аламліеў, П. Холад, А. Шут, І. Герасюк, Ю Беленькі, Б. Гюнтар, А. Трусаў, В. Какоўка, Л. Дзейка, Л. Зданевіч, Г. Сямдзянава, І. Пырх, М. Маркевіч, М. Аксаміт, М. Крыжаноўскі, В. Малашка, Я. Цумараў.**


ЛЯ РАТУШЫ.

# ПЫТАНЬНІ—АДКАЗЫ

Такую простую—на першы погляд—назву даў свайму матэрыялу магілёўскі журналіст Ул. Якубоўскі. Нашае нялёгкае жыцьцё «падкідвае» кожнаму з нас складаныя пытаньні. Палітычныя сярод іх—ці не самыя галоўныя. На іх спрабуе адказаць і словамі, і справай З. Пазьняк.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Добра вядомая ацэнка становішча ў эканоміцы й палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы апазіцыяй БНФ. Але яно пастаянна зьмяняецца і, натуральна, гэтае ўносіць карэктывы ў Вашую пазіцыю па адносінах да падзеяў!**

**З. ПАЗЬНЯК:** Гэта памылка, быццам «яно» пастаянна зьмяняецца. Назіраньне лінейных зьменаў (таго, напрыклад, што сёньня стала горш, чым учора, цэны вышэйшыя, чым пазаўчора і г. д.) ёсьць толькі канстатацыя працэсу палітычнай і эканамічнай дэградацыі. Прычыны іх нязьменныя, і, дарэчы, даўно высьветленыя і паказаныя Народным Фронтам. Безумоўна, робіцца карэктыроўка палітычнай тактыкі, вызначэньне часовых прыярытэтаў, але пазіцыі не зьмяняюцца. Становішча пастаяннае: маўклівае грамадзтва загнанае ў тупік. І пакуль не адбудзецца зьмена старой наменклатурна-камуністычнай улады, выхаду з тупіка няма. Гэта не значыць, што палітычныя перамены палепшаць становішча аўтаматычна. Але любая некамуністычная, непраімперская ўлада будзе мець магчымасьць адчыніць перспектывы.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Сёньня зразумела, што Беларусь падвяргаецца эканамічнаму ды палітычнаму дыктату, які ўзмацняецца. Якія, на Ваш погляд, шанцы на захаваньне суверэнітэту рэспублікі!**

**З. ПАЗЬНЯК:** Галоўнае не ў дыктаце, а ў палітыцы нацыянальнай здрады, якую праводзіць на Беларусі стары камііністычны ўрад і наменклатурная большасьць Вярхоўнага Савету. Расейскі імперскі дыктат адпаведных колаў і здрадніцкая палітыка беларускай кіруючай наменклатуры—гэта ёсьць адна агульная палітыка, якую яны ажыцьцяўляюць разам. Прычына такіх дзеяньняў аб'ектыўна вынікае з агульных сацыяльна-эканамічных інтарэсаў наменклатуры, для якой улада ёсьць спосаб існаваньня і прыўлашчваньня прыватнай уласнасьці («прыхватызацыя» за кошт дзяржавы, карупцыя, удзел у прадпрымальніцтве, у разьмеркаваньні рэсурсаў, тавараў, паслуг і г. д.). Суб'ектыўныя інтарэсы абумоўлены нацыянальным нігілізмам (прычым, у самым паталагічным выяўленьні), характэрным для КПБ-КПСС—спадчыннай арганізацыі ўсёй наменклатуры.

Зьнешне гэта выглядае так, што старарэжымнае кіраўніцтва, кансервуючы адміністрацыйную сістэму на Беларусі і праводзячы адначасна «прыхватызацыю» ў сваіх інтарэсах, тармозячы эканамічныя рэформы, стварыла асновы мафіёзнай дзяржавы, завяла ў нерат эканоміку і фінансавую сістэму краіны. Стаўшы банкрутам, кіруючая наменклатура, баіцца адказнасьці, не бачыць выхаду і гатовая здаць дзяржаўную незалежнасьць пад Расею, зрабіць беларусаў заложнікамі яе імперскіх ваенных авантураў. Такія дзеяньні і нават памкненьні ёсьць дзяржаўнае злачынства. Але ашаломлены народ маўчыць, а ўся ўлада ў руках наменклатуры. Яе ніхто не кантралюе, акрамя самой наменклатуры.

Калі ж глянуць глыбей, то справа выглядае больш злавесна, пагроза страты незалежнасьці існуе. Мы сталі аб'ектам прымяненьня традыцыйнай імперскай палітыкі з боку ельцынаўска-хасбулатаўскай Расеі. У геапалітычных раскладках Крамля Беларусь зьяўляецца праблемай № 1. Тут праходзіла перадавая лінія былой савецкай супрацьпаветранай і супрацьракетнай абароны Масквы, разьмешчаныя 23 базы стратэгічных ракетаў з усіх 43 існуючых у былым СССР, знаходзяцца 45 тысячаў расейскага стратэгічнага войска. Ствараць новыя лініі і базы за Вязьмай (бо да Вязьмы і Ржэва ляжыць беларуская этнічная і гістарычная зямля і яшчэ невядома, ці застанецца яна пад Расеяй) вельмі дорага і нязручна. Адсуль імкненьне падпарадкаваць Беларусь. Аднак упоперак горла стаў ім наш нейтралітэт. Таму невыпадкова зьявілася ідэя спачатку аб'яднаных узброеных сіл СНД, а потым «калектыўнай бясьпекі» і ваеннага саюзу з Расеяй і іншымі ваюючымі краінамі. Гэтая дактрына пачала працаваць не адразу, а толькі пасьля таго як былі затарможаныя ў нас рэформы, спыненая структурная перабудова эканомікі, затрыманае ўвядзеньне нацыянальнай валюты, ажыцьцёўлена штучная прывязка да паліўных энергарэсурсаў Расеі. Разбурэньне беларускай эканомікі праводзілася метадычна і прадумана.

Аднак скасаваць з ходу беларускі нейтралітэт не ўдалося. Тады расейска-беларуская наменклатурная змова выступіла адкрыта супраць беларускай дзяржавы, яе нейтралітэту і незалежнасьці. Крэмль перыядычна перакрывае падачу газу, праводзіць авантурную рэформу з рублём, палохае блакадай і зрывам паставак. Тут жа ў Маскву зь Беларусі едзе «группа товарищей» (традыцыйная напрацоўка яшчэ савецкага КДБ) дамаўляцца аб умовах скасаваньня беларускай дзяржавы, пра што імі было неўзабаве выказана ў друку. Рэчы неверагодныя. Але народ маўчыць.

Захоп Беларусі і стварэньне тут расейскага плацдарму—важнейшая ўмова для націску на Украіну, пагроза Польшчы і Літве. Беларусы павінны ведаць, што ў планах рускіх бальшавікоў яны як нацыя не існавалі. У выпадку ваеннага канфлікту (нават не ядзернага, а тыпу кувейцкага) ад Беларусі застанецца куча попелу. (Удар наносіцца спачатку па стратэгічных ваенных аб'ектах). Вось чаму ажыццяўленьне ў 1990 годзе ідэі Беларускага Народнага Фронту аб нейтралітэце і бязьядзернасьці Беларусі і наданьне потым гэтым палажэньням, дзякуючы стараньням Апазіцыі БНФ, сілы канстытуцыйнага закону зьяўляецца адным з важнейшых палітычных дасягненьняў БНФ. Дарэчы, яно працуе. У СНД ідуць войны, а ў нас ціха, нашы салдаты ўжо не гінуць на чужых войнах. Ды, відаць, не ўсім гэта даспадобы.

Наконт «шанцаў», то Беларусь свой суверэнітэт захавае, нават калі яго прыйдзецца абараняць са зброяй. Калі цяперашнія расейскія авантурысты паспрабуюць зьнішчыць незалежнасьць Беларусі, гэта стане пачаткам канца расейскай імперыі. Вось чаму я, шчыра кажучы, без трывогі назіраю за ўсім гэтым палітыканствам. Непакоіцца трэба тым, якія ўсю гэту кашу заварваюць. Тут выяўляецца агонія камуністычнай сістэмы. Яны дагуляюцца, што іх павыцягваюць зь іхніх украдзеных і шыкоўных «катэджаў» (слова ж прыдумалі). Тады можа хто і апамятаецца, ды будзе позна.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Адной з асноўных прычынаў мацнеючага крызісу зьяўляецца сыравінная залежнасьць ад Расеі. Як Вы адносіцеся да розных прапановаў па яе перадоленьню: будаўніцтва АЭС, балтыйска-чарнаморскага нафтавага калектара, арэнды цюменскіх нафтапромыслаў і інш.!**

**З. ПАЗЬНЯК:** У рынкавай эканоміцы такой залежнасьці не павінна існаваць. Гэта пацьвярджае Еўропа і ўвесь сьвет, даказваюць вольныя краіны Балтыі, якія ажыцьцяўляюць рынкавыя рэформы. (Дарэчы, ўсё тое, што даўно прапанаваў БНФ).

Паліўна-энергетычны крызіс на Беларусі створаны штучна. Я ўжо казаў, у чым тут прычына і хто ў гэтым зацікаўлены. Дарэчы, наяўнасьць нафты ў Беларусі за першую палову 1993 г. на душу насельніцтва большая, чым у Вялікабрытаніі, Францыі, Аўстрыі. Але дзе наш бензін? Латвія, напрыклад, не мае не толькі сваёй нафты, але і нафтаперапрацоўчых заводаў, а бензіну поўна і па ніжэйшых, чым у нас, цэнах. Латышы ўвялі нават 15-ці працэнтную пошліну, каб абмежаваць увоз бензіну ў краіну. Яго няма куды падзець. Тое ж у Эстоніі і Літве. У Беларусі ўзбагачаецца расейска-беларуская нафтавая мафія. Таму бензіну тут не будзе ніколі, нават калі афіцыйна яго наяўнасьць на душу будзе ў дзесяткі разоў большая, чым у ЗША. Дададзім сюды наменклатурна-імперскую палітыку энергетычнага шантажу. Вось і вынік. Выхад? Рабіць так, як у краінах Балтыі. Але спачатку трэба зьмяніць камуністычны ўрад і гэты Вярхоўны геранталагічны сход. Інакш нічога рабіць не дадуць.

Для пабудовы калектара БЧС трэба мінімум два гады. Цяпер па ініцыятыве БНФ створана міжнародная акцыянерная нафтавая кампанія. Калі ёй не будзе перашкаджаць урад (а перашкаджаць будзе), праблема з бензінам вырашыцца праз 4—6 месяцаў.

Мы можам абысьціся без будаўніцтва АЭС. Трэба «закальцавацца». ў міжнародную эўрапеўскую энергетычную сістэму вакол Балтыйскага мора. Павінна быць распрацаваная і ажыцьцёўленая праграма энергетычнай эканоміі (эфект да 30 прац.), выкарыстаны альтэрнатыўныя крыніцы энергіі. АЭС—крайняе рашэньне ў бязвыходным становішчы. Беларусь яшчэ не вычарпала іншых энергетычных магчымасьцяў. І нават не шукала.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Сродкі масавай інфармацыі стракацяць прозвішчамі дэпутатаў (у т. л. і А. Р. Лукашэнкі) у сувязі зь іх далёка ідучымі планамі ў барацьбе за неіснуючае пакуль прэзідэнцкае крэсла. Што Вы аб гэтым думаеце!**

**З. ПАЗЬНЯК:** А нічога не думаю. Ад бясконцых выступленьняў гэтага шумнага дэпутата ў вушах у мяне стаіць звон.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Як вы расцэньваеце магчымасьці палітычных праціўнікаў БНФ!**

**З. ПАЗЬНЯК:** Палітычныя магчымасьці ў іх мінімальныя. Прапагандысцкія—велізарныя. Падчас выбараў дамінаваць будзе той, у каго сродкі масавай інфармацыі і грошы, якімі гэтыя сродкі будуць купленыя. Гэта значыць, шмат будзе шуму ад партыяў наменклатуры, дырэктарыяту і камуністаў. Аднак большасьці яны не набяруць. Тут і прапаганда не дапаможа. Іх можа выратаваць толькі фальсіфікацыя выбараў. На гэта яны пойдуць. Таму павінен быць арганізаваны татальны народны кантроль за галасаваньнем.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Днямі ў «Народнай газеце» Вамі выказана ідэя стварэньня кааліцыйнага антыкамуністычнага ўрада. Але, як вядома, такія ўтварэньні вельмі няўстойлівыя, асноўную энергію яны трацяць на ўнутраную барацьбу. Ці існуе верагоднасьць таго, што кааліцыйны ўрад у Беларусі абыдзе такі лёс!**

**З. ПАЗЬНЯК:** Размова ішла пра «некамуністычны» часовы кааліцыйны ўрад. Яго рэсурс—пратрымацца некалькі месяцаў, пакуль адбудуцца выбары ў парламент.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Калі ідэя стварэньня кааліцыйнага ўрада будзе рэалізавана, то якім Вы бачыце ўдзел у гэтым БНФ!**

**З. ПАЗЬНЯК:** БНФ будзе ўдзельнічаць. У нас ёсць распрацоўкі і прапановы.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Пагадненьне ў Віскулях прадугледжвала ўсе тое, на чым грунтуюцца цяперашнія «канструктары» эканамічнага саюза. Ці не чакае яго такі ж сумны лёс!**

**З. ПАЗЬНЯК:** Так, лёс будзе такі ж. У гэтай ідэі трох наменклатурных прэм'ераў няма эканамічнага зьместу (набор дэмагагічных фразаў). Тут сэнс толькі палітычны і прапагандысцкі—стварыць умовы для інтэграцыі, абмежаваць, а потым і скасаваць незалежнасьць Беларусі і Украіны. Вынікам гэтага палітыканства можа, перш за ўсё, стаць поўнае разбурэньне эканомікі Беларусі і разрабаваньне яе вытворчасьці. (Так, дарэчы, рабілі расейцы пасьля захопу Беларусі ў канцы XVIII ст.). «Эканамічны саюз»—гэта чарговая імперская палітычная авантура. Нельга дапускаць яе рэалізацыі.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Не лічачы Канстытуцыі, найважнейшым актам, здольным зьмяніць палітычны твар Беларусі, зьяўляецца закон аб выбарах. Ці будзе апазіцыя зноў падымаць гэтае пытаньне на наступнай сесіі Вярхоўнага Савета!**

**З. ПАЗЬНЯК:** Праект закона аб выбарах Апазіцыяй БНФ створаны яшчэ ў 1990 г., надрукаваны, распаўсюджаны і прапанаваны на рэферэндум, падтрыманы неабходнай колькасьцю выбаршчыкаў. Прынята афіцыйнае рашэньне аб правядзеньні рэферэндуму. Таму пытаньне аб выбарчым законе—гэта пытаньне пра адмену незаконнага варварскага рашэньня Вярхоўнага Савета аб забароне рэферэндуму.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Ці зможа, на Вашую думку, С. Шушкевіч захаваць пост кіраўніка парламента. Калі не, то хто яго найбольш верагодны пераемнік!**

**З. ПАЗЬНЯК:** Ад С. Шушкевіча нічога не залежыць. Таму сам ён нічога не «зможа». Шчыра кажучы, многія, узлаваўшыся, ужо гатовыя здаць гэтае пустое месца, так ён усім надакучыў сваім нічоганеразуменьнем, нічоганерабленьнем, бясхрыбетнасьцю і словаблудзтвам. Аднак лепш мець «пустое месца», чым шакала на троне. Апазіцыя і ўсе дэмакратычныя дэпутаты трапілі і недарэчнае становішча—вымушаныя захоўваць асобу, на якую не спадзяюцца, зь якой нават не кантактуюць, а яна, гэтая «асоба», яшчэ і зьневажае іх (каб дагадзіць камуністам) і куражыцца. Цырк. Думаю, аднак, што нельга дапусьціць зьняцьце С. Шушкевіча. Гэта буфер, які замінае абсалютнаму захопу ўлады прарасейскай праімперскай намеклатурай.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Раней Вас папракалі тым, што Вам выгадна быць кіраўніком апазіцыі. Гэта сапраўды так, ці сёньня Вы гатовыя заняць адзін з найважнейшых дзяржаўных пастоў, калі такая мажлівасць здарыцца!**

**З. ПАЗЬНЯК:** Сутнасьцю парламенцкай апазіцыі зьяўляецца, перш за ўсё, яе непрыняцьце палітыкі ўрада. (Дэпутат свабодны. Чыноўнік і член урада—не). Таму дэпутаты парламенцкай апазіцыі не могуць уваходзіць у цяперашні ўрад і займаць у ім «дзяржаўныя пасады».

Аб «выгадзе». Калі Вы станеце дэпутатам парламента (ды яшчэ, калі пашанцуе—камуністычнага), паспрабуйце зрабіцца «кіраўніком апазіцыі». Адчуеце ўсю выгаду.

**Верасень 1993 г.**

